**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 23 (844) 9 чэрвеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае













ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10023



**Сапеліна – свята вёскі!**



Ізноў праз 11 гадоў прайшло свята вёскі Сапеліна. У вёсцы цяпер пражывае 18 чалавек. Адбыўся святочны канцэрт і ўручэнне падарункаў і прызоў заслужаным жыхарам вёскі. *Фота Змітра Лупача.*

# РОССЫП САПРАЎДНЫХ ТАЛЕНТАЎ

## Праграма

**XIX Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" у Паставах.**

**10 чэрвеня (пятніца)**

**11.00 -- 13.00** Літаратурнае свята "Пакуль пяём на роднай мове мы, жыве зямля бацькоў, жыве Радзіма". Канцэртная зала па вул. Чырвонаармейскай.

**10.00 – 12.00** Спартыўныя спаборніцтвы. Гарадскі стадыён.

**15.00** Адкрыццё фотавыставы А. Чалея і выставы жывапісу І. Атрахімовіча "Пастаўшчына – мая любоў". Выставачныя залы Дома рамёстваў.

**19.00 – 20.30** Канцэрт-віншаванне да 25-годдзя з дня стварэння заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь фальклорнага ансамбля "Паазер'е" з удзелам замежных творчых калектываў. Раённы Дом культуры па вул. Станкевіча.

**11 чэрвеня (субота)**

**13.00 – 14.00** Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі аргкамітэта, прадстаўнікамі СМІ. Зала пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама.

**14.00 – 20.00** "Горад майстроў" з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці. Плошча імя Леніна.

**15.00 – 18.00** Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго". Раённы Дому культуры па вул. Станкевіча.

**16.00 – 20.00** "Пастаўшчына гасцінная". Агляд-конкурс сельскіх панадворкаў. Плошча імя Леніна.

**17.00 – 17.30** Адкрыццё музейнай выставы, прысвечанай 230-годдзю з дня нараджэння графа К. Тызенгаўза і 200-годдзю Пастаўскага арніталагічнага музея. Палац Тызенгаўзаў.

**17.30 – 18.30** Тэатралізаванае прадстаўленне "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб" з удзелам калектываў старадаўняй музыкі. Усходні фасад Палаца Тызенгаўзаў.

**20.00 – 21.30** Урачыстае адкрыццё фестывалю. Плошча імя Леніна.

**21.30 – 23.00** Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне "Пастаўскі баль". Плошча імя Леніна.

**23.00 – 24.00** Канцэрт эстраднага выканаўцы Сашы Нема. Плошча імя Леніна.

**24.00** Святочны феерверк. Плошча імя Леніна.

**00.15 – 02.00** Забаўляльная праграма для моладзі з удзелам лепшых дзіджэяў Віцебскай вобласці. Плошча імя Леніна.

**12 чэрвеня (нядзеля)**

**9.30 – 11.00** Канцэрт класічнай музыкі. Пастаўскі касцёл св. Антонія Падуанскага.

**10.00 – 15.00** Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці. Гарадскі парк.

**12.30 – 13.00** Тэатралізаванае шэсце удзельнікаў і гасцей фестывалю. Плошча імя Леніна – гарадскі парк.

**13.00 – 15.00** Заключны гала-канцэрт удзельнікаў і лаўрэатаў XIX Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Гарадскі парк.

**Жыве народная музыка – будзе жыць і наш народ!**

*Аргкамітэт сардэчна запрашае на фестываль у Паставах.*





# Пражыванне госцяў абыйдзецца «Славянскаму базару» больш за мільярд рублёў

■ **Сяржук Серабро**

**Цэнтр культуры «Віцебск» змясціў тэндар на закуп паслуг па пражыванні ўдзельнікаў XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».**

Паводле дакументацыі тэндара для пражывання госцяў форума запатрабуецца 17 нумароў «Люкс», 7 апартаментаў, 223 аднамесных, 241 двухмесны і 28 трохмясцовых нумароў. Усяго 516 нумароў з 823 ложка-месцамі. Акрамя таго, па заяўках дырэкцыі фестываля пры неабходнасці трэба будзе падаць яшчэ 950 ложка-месцаў.

Арыентыровачны кошт пражывання ўсіх удзельнікаў «Славянскага базара» сёлета складае 1 150 000 000 рублёў. Фінансуецца закуп з рэспубліканскага бюджэту.

## Лёзненскі раён

# Як мёртваму прыпаркі

■ Станіслаў Раманчук.

**Якіх толькі спосабаў не прыдумвалі ў Беларусі, каб выцягнуць з багны дабітыя да ручкі калектыўныя гаспадаркі.**

Па такой схеме адстаючы калгас "Выдрэя", што ў Лёзненскім раёне, больш 10 гадоў назад даручылі ратаваць ад банкруцтва Віцебскаму аддзяленню Беларускай чыгункі. Хоць чыгуначнікам і самім патрабаваліся абаротныя сродкі, яны выдзелілі за гэты час на патрэбы калгасікаў 55 млрд. рублёў. Нармальным гаспадарам такія інвестыцыі дапамаглі б адразу стаць на ногі, нармальна развівацца, але іх катастрафічна не хапае цяпер на вёсцы. Чыгунка дапамагла сваім падшэфным і пабудавала яшчэ сучасную рабатызаваную ферму, цэлы малочны комплекс, але гэты калгас па-ранейшаму сярод адстаючых. Прыйшлося аблвыканкаму нядаўна прызначыць сюды новага кіраўніка, бо яшчэ да новага года скончыліся кармы. Высветлілася, што і перад касавіцай у гаспадарцы не хапае тэхнікі для нарыхтоўкі кармоў і ўвогуле пануе поўная безгаспадарчасць. Надоі на карову знізіліся амаль на паўтары тысячы літраў пры наяўнасці самай сучаснай фермы і працягваюць падаць. Чыгунка выдзеліла зімой сёлета яшчэ 350 млн. рублёў на закупку кармоў, каб жывёла не галадала. Пагалоўе статку таксама зменшылася, а нядбайныя гаспадары зноў патрабуюць Беларускую чыгунку купіць цяпер ужо ім корманарыхтоўчую тэхніку. У інвестараў таксама зараз хапае і ўласных праблем, неабходна вяртаць банкам значныя сумы па крэдытах, затрачаных на падтрымку гаспадаркі, якая прывыкла жыць за чужы кошт. У сітуацыі ўжо пачаў разбірацца абласны Камітэт дзяржкантролю, але відавочна, што іначай калгаснікам трэба працаваць на зямлі і вырашаць свае праблемы.

## Пастаўскі раён

# Бездакорны следчы – відэа

■ Кастусь Александровіч

**З дапамогай сучасных электронных сродкаў апошнім часам і ў нашай краіне сталі раскрывацца розныя злачынствы.**

Вось і ў Пастаўскім раёне меней чым за двое сутак удалося вылічыць і затрымаць рабаўніка. Ім аказаўся 60-гадовы жыхар вёскі Дварчаны, які толькі што аформіўся на пенсію і чакаў першых такіх грошай, працаваў таксама пастухом. Аднак у свой выхадны дзень мужчына прыехаў у райцэнтр да родных і рашыўся на агідны ўчынак. Вельмі ўжо захацелася мужчыну выпіць, грошай на гэта не хапала, і ён абакраў пажылую жанчыну ў цэнтры горада. Прычым зрабіў гэта днём у людным месцы прама ў памяшканні мясцовай царквы свяціцеля Мікалая Цудатворцы. У храме ніхто не чакаў, што незнаёмы вырве сумачку з рук прыхаджанкі. Пажылая жанчына і іншыя сведкі здарэння толкам не змаглі апісаць прыкметы нягодніка. Але на шчасце цэнтральная плошча горада абсталявана некалькімі камерамі відэаназірання. На адной з іх удалося зафіксаваць момант, як злодзей хуценька пакідае святыню. Але твар злачынцы быў бачны невыразна і таму следчыя прадоўжылі скрупулёзна адсочваць іншыя запісы камер. Потым яны ўбачылі на новым кадры ўжо выяўна на плошчы падобнага падазронага ў кампаніі з іншым мужчынам, прозвішча якога ўдалося высветліць. Такім чынам дзякуючы сучаснай тэхніцы аператыўнікі раскрылі гэту крымінальную справу. Дзякуючы ўстаноўленым камерам відэаназірання ў горадзе і раней міліцыі атрымоўвалася выйсці на след злачынцаў у іншых зафіксаваных правапарушэннях.

## Мёрскі раён

# Пагуляў лясны хуліган

■ Чэслаў Якубовіч.

**У невялікіх еўрапейскіх гарадках сустрэць на вуліцах і ў парках дзікіх жывёлін і птушак можна рэгулярна, бо яны там не баяцца людзей.**

Нешта падобнае напрыканцы мая назіралася і ў Мёрах, дзе найбольш размоў было аб наведванні маладым ласём мясцовай СШ № 3 імя Героя Савецкага Саюза контр-адмірала Рыгора Тамко. Незадоўга перад пачаткам заняткаў раніцай госць з лесу прыйшоў у гэту школу, размешчаную на ўскрайку райцэнтра. Магчыма, яго збіла з панталыку, што там багата яблынь, розных дрэў і кустарнікаў, а таксама вадаём. Ва ўсялякім разе лясны прыгажун патрапіў ва ўнутраны дворык школы. Асобныя дзеці здалёк убачылі ў ім каня, але лось наткнуўся ў вокны карыдора на першым паверсе. Хоць у няпрошанага госця амаль не было рагоў, ён, напэўна, усё ж спужаўся і разбіў чатыры акны, а калі яго яшчэ прыстрашыў школьны вартаўнік, то лось імкліва пераскочыў цераз плот і кінуўсянаўцёк.Супрацоўнікі мясцовага райаддзела МНС, якіх сюды выклікалі, жывёліну ўжо не ўбачылі, як і большасць вучняў школы. Дагэтуль падобных здарэнняў на тэрыторыі раёна ніколі не было. Траўм ці нейкіх пашкоджанняў лось таксама не атрымаў. Наступствы ягонага візіту тэхнічныя работнікі ліквідавалі хутка, уставілі новае шкло ў вокны і вучэбны працэс прадоўжыўся па ўстаноўленым плане. Толькі мясцовыя жыхары доўга жартавалі, што такім чынам лясны хуліган раней за іншых выпускнікоў забег атрымаць свой атэстат сталасці.

## Аб самым надзённым

# Жыццё не па сродках пры некампетэнтным кіраўніцтве прывяло Венесуэлу да калапсу і галечы, беларусам пара пра гэта задумацца

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Далёкая лацінаамерыканская краіна аказалася на мяжы нават голаду, бо ў магазінах шаром пакаці. Каб хоць што-небудзь купіць нават па картках, яе жыхары вымушаны па паўдня і болей стаяць у гіганцкіх чэргах. Ад адчаю пачаліся сёлета галодныя бунты і ў І-м квартале, як паведамілі СМІ, былі разграблены поўнасцю 107 гандлёвых кропак.**

Апошнім часам пасля адмены заходніх санкцый пачасціліся паездкі ў беларускую сталіцу высокапастаўленых еўрапейскіх і амерыканскіх чыноўнікаў высокага рангу. Праз некалькі гадоў і беларускі лідар стаў выязным, ажыццявіў афіцыйны візіт у Італію і Ватыкан. Прадстаячыя 11 верасня парламенцкія выбары могуць таксама стаць важным этапам для далейшай нармалізацыі адносін Беларусі з цывілізаваным светам. Стала відавочна, што калі беларускае кіраўніцтва захоча праявіць палітычную волю, то наша краіна можна ўвайсці і ў Парламенцкую асамблею Савета Еўропы.

Праўда, прадстаўнікі Венецыянскай камісіі засталіся незадаволенымі існуючай у нас практыкай працяглага датэрміновага галасавання і тым, што кіраўнік дзяржавы прызначаеглавуЦэнтрвыбаркама. Афіцыйны Мінск не адвяргае зараз заходнія рэкамендацыі па дэмакратызацыі выбарчага працэсу, паколькі Беларусь мае вострую патрэбу ў замежных крэдытах і інвестыцыях на фоне прыкметна аслабеўшай фінансава суседкі Расіі. Канешне, спадзявацца раптам на цуды, што айчынны Выбарчы кодэкс памяняецца, стане прагрэсіўным, не выпадае. У нас стануць выконваць толькі тыя рэкамендацыі АБСЕ, якія не паўплываюць на вынік выбараў у Палату прадстаўнікоў, але зараз улады могуць туды прапусціць і некалькі апазіцыянераў.

Дарэчы, як паказвае сусветная практыка, там дзе праходзяць свабодныя дэмакратычныя выбары, дзе існуе шматпартыйная сістэма, незалежныя СМІ, дзе нарэшце працуе рынкавая эканоміка, там паўсюдна ўзровень жыцця насельніцтва непараўнальна больш высокі, чым у дзяржавах з іншымі падыходамі. Да прыкладу, возьмем нядаўняга нашага блізкага саюзніка і сябру на далёкім амерыканскім кантыненце – Венесуэлу. Гэта дзяржава з 30-мільённым насельніцтвам, дарэчы, з'яўляецца адной з вядучых у свеце па запасах нафты. Здавалася б, жыві там на экватары без зімовых халадоў, як у нас, і радуйся сонцу і цяплу, вырашай надзённыя сацыяльныя праблемы і павышай жыццёвы ўзровень.

Аднак на практыцы выйшла зусім наадварот, "чавісцкі сацыялізм XXI стагоддзя", які тут будавалі, рухнуў і ў гэтай частцы планеты, як толькі зменшыліся сусветныя цэны на нафту. Далёкая лацінаамерыканская краіна аказалася на мяжы нават голаду, бо ў магазінах шаром пакаці. Каб хоць што-небудзь купіць нават па картках, яе жыхары вымушаны па паўдня і болей стаяць у гіганцкіх чэргах. Ад адчаю пачаліся сёлета галодныя бунты і ў І-м квартале, як паведамілі СМІ, былі разграблены поўнасцю 107 гандлёвых кропак. На вуліцу вечарам лепей не выходзіць, бо за год было зафіксавана каля 18 тысяч забойстваў з мэтай рабавання на фоне інфляцыі 700 %.

Венесуэльская сістэма ахоўы здароўя таксама рухнула, бо ў бальніц і паліклінік няма грошай закупляць медыкаменты, матэрыялы. Лякарстваў зусім няма і, хто захварэе, непазбежна памірае з-за адсутнасці лякарстваў, немагчымасці праводзіць аперацыі. Венесуэльцы ўжо прывыклі жыць з пастаяннымі перабоямі з падачай электраэнергіі. Не хапае ў іх самага элементарнага – піцьцявой вады, той жа туалетнай паперы, у продажы знікла зусім піва, многія іншыя тавары масавага спажывання, бытавая тэхніка. А вось пачыналіся гэтыя працэсы нібыта з народнай рэвалюцыі і аднаўлення сацыяльнай справядлівасці.

Яшчэ пры нябожчыку-папулісту Уга Чавесу тым правялі нацыяналізацыю буйнейшых кампаній і фірм. Дзяржава стала ўмешвацца ў цэнаўтварэнне, адчувальна падняла заробкі рабочым і служачым з дзяржбюджэту, бясплатна стала карміць школьнікаў і студэнтаў, ажыццяўляла іншыя сацыяльныя праграмы, бо гэта дазваляў рабіць прыток нафтадолараў.

Пры гэтым замест прафесіяналаў да кіраўніцтва краінай прыходзілі балбатуны-папулісты, дагэтуль дзяржавай кіруе шафёр па спецыяльнасці. М. Мадура можа зараз толькі прадаўжаць надзвычайнае становішча, каб пазбегнуць імпічменту. Венесуэльцы апынуліся на мяжы сапраўднай грамадзянскай вайны і новай крывавай ужо рэвалюцыі, а да выхаду з эканамічнага калапсу ім вельмі далёка.

Сітуацыя ў беларускай эканоміцы адрозніваецца ад таго, што робіцца ў Венесуэле, але і ў нас яна вельмі няпростая. Тэмпы гадавога падзення ВУП супаставімыя сталі з венесуэльскімі, наш дзяржбюджэт таксама ў значнай ступені залежыць ад прытоку валюты ад продажу нафтапрадуктаў. Вось чаму на чужых памылках нам трэба вучыцца, каб не дапусціць такога развалу. Па шчырасці, у беларускім урадзе гэта разумеюць, вось і ад ранейшай шчодрай падтрымкі стратных дзяржпрадпрыемстваў пачалі адмаўляцца. Нацбанк таксама праводзіць належную палітыку, не пускае ў абарот лішніх грошай, праўда, і пратэрмінаваная запазычанасць перад банкамі па крэдытах і займах вырасла на чвэрць. Вельмі няпроста будзе Беларусі сёлета вярнуцца на аднаўленне свайго эканамічнага росту, ён калі і пачнецца, то толькі ў бліжэйшыя гады.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 09.06.16 | | | | Пятніца 10.06.16 | | | | Субота 11.06.16 | | | | Нядзеля 12.06.16 | | | | Пан. 13.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +10 | +15 | +12 | +7 | +12 | +16 | +15 | +11 | +9 | +12 | +12 | +11 | +12 | +17 | +15 | +8 | +14 | +19 |
| Ціск | 741 | 743 | 744 | 743 | 743 | 743 | 741 | 736 | 734 | 735 | 735 | 735 | 737 | 742 | 745 | 745 | 745 | 747 | 746 |
| Вецер м/сек | 4 Пн-З | 6 Пн | 6 Пн-З | 4 Пн-З | 1 Пн | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд-У | 7 Пд-З | 9 Пд-З | 8 Пд-З | 7 З | 8 Пн-З | 9 Пн-З | 7 Пн-З | 4 Пн-З | 3 З | 1 Пд | 4 Пд |
| Вільготнасць | 91 | 54 | 38 | 45 | 87 | 59 | 43 | 45 | 84 | 82 | 79 | 71 | 90 | 69 | 48 | 52 | 89 | 69 | 41 |

## Дзень за днём

**Да канца снежня завершаць узвядзенне МКАД-2 коштам 5,5 трлн. рублёў. Расходы дзяржбюджэту Беларусь скароціць на 15 трлн. рублёў. За год айчынны дробны бізнес страціў 56 тысяч работнікаў. Аналітыкі спрагназавалі чарговае падзенне расійскага і беларускага рубля. Міністэрства гандлю выявіла вінаватых у неабгрунтаваным росце цэн у Беларусі. Багатыя беларусы сталі актыўна скупляць зямлю і нерухомасць у Польшчы. Да пачатку лета ў краіне ўтапіліся ўжо 65 чалавек, з іх чацвёра падлеткаў падчас купання на вадаёмах. Белтэлерадыёкампанія пакажа ўсе матчы чэмпіянату Еўропы па футболе ў Францыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Усе 28 краін-удзельніц ЕС вырашылі захаваць яшчэ на паўгода санкцыі супраць Расіі за яе агрэсію ва Украіне, бо падстаў для іх адмены не назіраецца.

**Аўстралія.** Родныя 33 ахвяр збітага над Данецкам "Боінга" падалі судовы іск супраць Расіі і Пуціна ў ЕСПЧ, патрабаюць па 10 млн. $ за кожнага загінуўшага сваяка.

**Украіна.** Генеральны сакратар АБСЕ Л. Заньер пацвердзіў, што арганізацыя можа накіраваць узброеных паліцэйскіх для забеспячэння міру ў Данбасе, супраць гэтага Расія.

**Расія.** Адзін з лідараў апазіцыі А. Навальны заявіў, што Пуцін вымушаны ўлазіць у знешнепалітычныя авантуры, каб адцягнуць увагу расіян ад праблем эканомікі і карупцыі.

**Японія.** Японцаў засмуціла заява прэзідэнта Расіі У. Пуціна, што ён не збіраецца прадаваць Курыльскія астравы, якія лічыць сваімі па выніках II Сусветнай вайны.

**Егіпет.** Амерыканскія спадарожнікі не зафіксавалі выбуху над Сяродземным морам, калі ў выніку тэракту пацярпеў катастрофу самалёт авіякампаніі EqyptAir і загінулі 66 чалавек.

**Чарнагорыя.** Пасля падпісання ў Брусселі пратакола аб уступленні краіны ў НАТО Расія прыгразіла мерамі ў адказ, адна з іх размяшчэнне комплексу ракет "Іскандэр" у Беларусі.

**Турцыя.** Парламент краіны большасцю галасоў прыняў закон аб магчымасці пазбаўлення дэпутатаў недатыкальнасці, апазіцыя і курды рэзка раскрытыкавалі гэты законапраект.

**Украіна.** У рамках дэкамунізацыі Вярхоўная рада перайменавала буйны абласны цэнтр Днепрапятроўск (Кацярынаслаў) у Дняпро, горад Днепрадзяржынск стаў Каменскае.

**Расія.** Ужо да восені, як заявіў намеснік міністра фінансаў А. Маісееў, будзе падрыхтаваны закон аб правядзенні ў РФ пенсійнай рэформы, вырасце пенсійны ўзрост.

**Польшча.** У краіне пачаў дзейнічаць новы закон аб забароне прапаганды камунізму, будуць перайменаваны 1300 вуліц, але гэта не закране помнікі, абеліскі, мемарыялы.

**Англія.** У графстве Нотынгем спыніла працу апошняя ў краіне тытунёвая фабрыка фірмы Imperial Tobacco, бо кураць зусім мала англічан, яна запрацуе ў Германіі і Польшчы.

**Індыя.** У горадзе Фалодзі правінцыі Раджастан зафіксавалі перад сезонам ліўняў рэкордную ў свеце тэмпературу паветра плюс 51 градус, гэта небяспечна ўжо для людзей.

**Украіна.** Усе буйныя гарады акупіраванага Расіяй Крыма засталіся зноў без электрычнасці з-за тэхнічных збояў на ЛЭП, паўвостраў абясточваўся поўнасцю ўжо некалькі разоў.

**Ватыкан.** Падчас 40-хвіліннай сустрэчы ў Апостальскім палацы беларускі лідар А. Лукашэнка запрасіў Папу Рымскага Францішка наведаць з пастарскім візітам Беларусь.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Надзелены новымі функцыямі Мінгандлю спадзяецца перамагчы рэгіянальны пратэкцыянізм




■ TUT.BY

**Мінгандлю, пасля таго як стане міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю, збіраецца перамагчы рэгіянальны пратэкцыянізм у рытэйла. Пра гэта заявіў у праграме «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1» міністр гандлю Уладзімір Калтовіч.**

У Беларусі часта вытворцы з аднаго рэгіёну наракаюць на тое, што складана прабіцца на паліцы магазінаў у іншым рэгіёне, таму што там гандаль па загадзе зверху (часта вусным) аддае перавагу мясцовым вытворцам.

«Я ведаю, што ёсць такія факты, - адзначыў Калтовіч. - Іх асновай з'яўляюцца адміністрацыйныя ўказанні мясцовых органаў улады. У сувязі з гэтым [указам № 188 «Аб органах антыманапольнага рэгулявання і гандлю»] гандлёвая інспекцыя і антыманапольныя службы выведзены з падпарадкавання абласных выканкамаў і Мінскага гарвыканкама. Мы будзем вельмі ўважліва глядзець за прысутнасцю поўнага асартыменту вырабляемай у Беларусі прадукцыі ва ўсіх абласных цэнтрах».

Згодна з указам № 188 адзіны антыманапольны орган павінен быць створаны на базе Міністэрства гандлю. У яго склад перадаюцца Дэпартамент цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі, а таксама ўпраўленні антыманапольнай і цэнавай палітыкі аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама. Агульная колькасць новага міністэрства складзе 228 чалавек, сказаў Калтовіч. На працягу трох месяцаў адзіны антыманапольны орган павінен пачаць функцыянаваць.

«Стварэнне адзінага самастойнага антыманапольнага органа заклікана забяспечыць абарону і развіццё канкурэнцыі, развіццё антыманапольнага заканадаўства, але ключавой задачай застаецца абарона ўнутранага рынку на аснове роўнага доступу ўсіх яго ўдзельнікаў і на аснове добрасумленнай канкурэнцыі», - растлумачыў міністр.

Пачаць фарміраванне новай структуры плануецца з замовы новай шыльды для фасада будынка, дзе месціцца міністэрства.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Хоць Беларусь не прызнае доўг перад "Газпрамам" за газ, Мінэнерга РФ заявіла, што роўнадаходныя цэны на гэта паліва яна атрымае ў рамках ЕАЭС толькі да 2025 года.

**Астравец.** Еўракамісар ад Літвы В. Андрукайціс пацвердзіў, што ў ЕС няма звестак аб тым, што Беларусь не захоўвае еўрапейскія стандарты бяспекі пры ўзвядзенні АЭС.

**Гомель.** ЕС жорстка адрэагаваў на 3-ці сёлета смяротны прыгавор, які вынес абласны суд гамяльчаніну С. Вострыкаву, Беларусь адзіная ў Еўропе, дзе расстрэльваюць злачынцаў.

**Салігорск.** Для тушэння начнога пажару на складзе № 6 "Беларуськалія" прыйшлося прыцягнуць 23 спецмашыны і 66 супрацоўнікаў МНС, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Ліда.** У год свайго 140-гадовага юбілею ААТ "Лідскае піва" атрымала ў Бельгіі яшчэ 3 еўрапейскія прэміі з некалькімі зоркамі за выдатную якасць навінак свайго піва.

**Мінск.** Прыезд Папы Рымскага ў Мінск, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, быў бы элегантным штрыхом да тэзісу, што сучасная Беларусь усё ж гэта не Расія.

**Абчак.** Вядучы іранскі вытворца аўтамабіляў Iran Khodro зноў вырашыў прадоўжыць выпуск і рэалізацыю сваіх машын "Саманд" і іншых на базе прадпрыемства "Юнісан".

**Клецк.** Днём на тэрыторыі раёна ў выніку лабавога сутыкнення дзвюх іншамарак загінула 10-гадовая дзяўчынка, яшчэ 7 чалавек з рознымі траўмамі змясцілі ў райбальніцу.

**Валожын.** Ноччу ў вёсцы Войганы загарэўся цялятнік, яшчэ да прыбыцця пажарных работнікі фермы эвакуіравалі 135 бычкоў, але полымя знішчыла 50 кв. метраў даху.

**Пінск.** Ля вёскі Берасці вадзіцелі выратавалі ад гібелі людзей з аўтамабіля Opel, які пад кіраўніцтвам 65-гадовага пенсіянера зляцеў у кювет, перакуліўся ў меліярацыйным канале

**Мінск.** За атрыманне 13,5 млн. рублёў хабару за ліпавыя бальнічныя двое ўрачоў і фельдшар 17-й гарпалiклінікі атрымалі на траіх 10 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Гомель.** У абласным цэнтры адназвалі рух цягнікоў пасля падзення на чыгуначныя пуці масіўнага пад'ёмнага крана Kobelco-7150 грузападымальнасцю 150 тон.

**Гродна.** Гранаты і дзясяткі патронаў знайшлі ў лясным масіве ля вёскі Новая Гожа, дзе гуляючы ў вайну атрымаў раненні і страціў палец рукі 10-гадовы хлопчык.

**Жодзіна.** Упершыню ў сваёй гісторыі каманда аўтазавода "Тарпеда-БелАЗ" выйграла Кубак Беларусі па футболе і атрымала пуцёўку гуляць у розыгрышы Лігі Еўропы.

**Жыткавічы.** Падчас запраўкі аўтамабільнай газавай установкі ў выніку выбуху газавага балона 47-гадовы вадзіцель атрымаў моцныя апёкі цела і патрапіў у рэанімацыю.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Абласны Эканамічны суд распачаў справу аб эканамічнай недзеяздольнасці (банкруцтве) мясцовага завода ЖБВ, узведзенага ў эксплуатацыю ў 1979 годзе.

**Балбасава.** У гарпасёлку пачалі рыхтаваць пляцоўку для пачатку будаўніцтва буйнога прамыслова-лагістычнага комплексу з аб'ёмам інвестыцый 1,2 трлн. рублёў.

**Глыбокае.** З-за няўстойлівага надвор'я і потым ліўняў у раёне не ўзышоў пасеяны вясной яравы рапс на плошчы амаль 300 гектараў, гаспадаркам прыйшлося яго паўторна сеяць.

**Віцебск.** На базе 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгады байцы спецназу краіны і Расіі правялі конкурс на права нашэння спецыяльнага знака "Доблесць і майстэрства".

**Навапалацк**. Па выніках маніторынгу напрыканцы мая эколагі зафіксавалі павышэнне ўзроўню забруджання паветра ў нафтаградзе, а таксама ў Мінску, Магілёве, Гомелі.

**Докшыцы.** Дрэваапрацоўчы цэх Бягомльскага лясгаса выйшаў на безадходную тэхналогію выпрацоўкі да 1500 кубаметраў драўніны ў месяц, 55 % яе ідзе на экспарт.

**Глыбокае.** З-за недахопу сродкаў сёлета адмянілі Міжнародны фестываль каталіцкіх фільмаў і тэлепраграму "Magnificat", такіх кінафорумаў у Еўропе было ўсяго чатыры.

**Паставы.** На базе райбальніцы прайшоў рэспубліканскі семінар медработнікаў па абагульненні вопыту дзейнасці мясцовых урачоў агульнай практыкі.

**Браслаў.** Услед за пунктам пропуску "Грыгароўшчына" пачалася рэканструкцыя другога буйнога аўтамабільнага пункта пропуску на граніцы з Латвіяй "Урбаны".

**Ушачы.** У гарадскім скверы райцэнтра работнікі райкамунгаса ўстанавалі новую дзіцячую гульнявую пляцоўку "Космас", зробленую па заказу сталічнай кампаніяй "Кентпласт".

**Глыбокае.** Экс-кандыдатка ў прэзідэнты, лідар кампаніі "Гавары праўду" Т. Караткевіч абвергла заяву глыбачаніна Я. Берніковіча пра фальсіфікацыі падчас збору подпісаў.

**Новалукомль.** Міліцыя затрымала пасля вывучэння камер відэаназірання 67-гадовага пенсіянера, які падабраў 200 долараў, упушчаных стаяўшай перад ім у банку старой жанчынай.

**Мёры.** Прафесійнага фатографа райгазеты "Міёрскія навіны" Казіміра Блажэвіча прызналі лепшым фотарэпарцёрам рэгіянальных друкаваных СМІ Віцебскай вобласці.

**Верхнядзвінск.** Падчас рэйду на возеры Няшчэрда супрацоўнікі межраённай інспекцыі аховы прыроды затрымалі браканьера з Расон, рыбалка абыдзецца яму ў 50 млн. рублёў.

**Браслаў.** На працягу двух дзён у горадзе праходзілі Міжнародны фестываль традыцыйнай культуры "Браслаўскія зарніцы" і свята сярэднявечнай культуры "Меч Брачыслава".

*Служба інфармацыі "ВГ" ( па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

Наш каляндар

# Глыбоцкім байкерам – 80!

Арганізацыйны сход адбыўся 31 студзеня 1936 года

■ **Уладзімір Скрабатун,** *тэкст і фота.*

Тыдні два таму-да аўтара гэтых радкоў з просьбай аб сустрэчы звярнулася група маладых людзей з Мінска, якая ў Глыбокім праводзіла маніторынг наконт выканання ў нашым горадзе правоў інвалідаў.

Натуральна, што вывучалася і грамадска-палітычная сітуацыя ў горадзе, бо якраз на гэтым фоне выконваюцца альбо не правы інвалідаў. Наколькі развіты прыватны бізнес, ці здольны ён стварыць рабочыя месцы для інвалідаў?

Аднак, тэма правоў інвалідаў вымагае асобнага артыкула, наш жа аповяд будзе пра глыбоцкіх байкераў... Натуральна, наведваючы ўстановы Глыбокага, мінскія маладыя аналітыкі даведаліся, што, рэальна, з таго што існуе сёння ў горадзе, самая актыўная грамадская арганізацыя – супольнасць глыбоцкіх байкераў! Не буду прыбядняцца, калі выдаўца "Вольнага Глыбокага" запрасілі на сустрэчу, то і нашая газета аднесеная як дадатны момант грамадскай актыўнасці у горадзе.

Так, глыбоцкія байкеры – заўважная рэчаіснасць нашага мясцовага жыцця! Яны бяруць удзел у масавых мерапрыемствах, якія праводзяцца ў раёне. Напрыклад, у мінулагодніх святкаваннях з нагоды 70-х угодкаў вялікай Перамогі. Ды й сёння рокат матораў матацыклаў у Глыбокім чутны да апоўначы!






**Урочышча Барок, мерапрыемствы з удзелам глыбоцкіх байкераў з нагоды 70-годдзя Перамогі.** 02.05.2015.

Цікава, наколькі байкерства на Глыбоччыне мае трывалыя даўнія карані? Ці ёсць традыцыі?

Ёсць! Мы адшукалі нататку на згаданую тэматыку ў газеце "Kurjer Wileński" за 1936 год. З яе мы даведваемся, што за некалькі гадоў да гэтай даты Матацыклетны Клуб Стралецкага Звязу быў заснаваны ў Вільні. Потым былі заснаваныя тэрытарыяльныя секцыі ў Лідзе і Глыбокім. Цытата:

"... На тэрыторыі нашага Падвокругу С[тралецкага] З[вязу] ужо існуюць дзве мясцовыя секцыі Матацыклетнага Клубу С[тралецкага] З[вязу] "Вільня" – у Лідзе і ў Глыбокім, дзе арганізацыйны сход Секцыі адбыўся 31 студзеня б[ягучага] г[ода]. За заснаванне гэтай секцыі належыць у вялікай меры падзякаваць Каменданту пав. С[тралецкага] З[вязу] "Дзісна" пар[учніку] Лютастаньскаму, які, нягледзячы на спатыканыя цяжкасці заснаваў гэтую маторніцкую арганізацыю на тэрыторыі Дзісненскага павета з сядзібай у Глыбокім.(...)"

Чым займаліся глыбоцкія байкеры 1930-х гг? Ды, тым самым, чым і сёння! Спортам і турызмам!

На жаль, нам не ўдалося па тагачасных публікацыях адсачыць далейшую дзейнасць глыбоцкага Матацыклетнага Клуба. Такія публікацыі пакуль не знайшліся.

**P.S.** Нагадаем, чытаннем газет 1930-х гадоў выдання займаецца адзін з нашых аўтараў Кастусь Шыталь, краязнаўца.

**Z Klubu Motocyklowego Z. S. Wilno**

**Istnieją już na terenie naszego Podokręgu ZS dwie sekcje terenowe Klubu Motocyklowego ZS Wilno — w Lidzie i w Głębokiem, gdzie zebranie organizacyjne Sekcji odbyło się 31-go stycznia b. r.**

**Powstanie tej sekcji w dużej mierze zawdzięczać należy Komendantowi pow. ZS Dzisna ob. por. Lutostańskiemu, który pomimo napotykanych trudności doprowadził do założenia tej jednostki motorowej na terenie pow. dziśnieńskiego z siedzibą w Głębokiem.**

**Вынятка з артыкула, апублікаванага ў газеце "Kurjer Wileński", Nr. 40, 10 лютага 1936 года, дзе згадваецца дата арганізацыйнага сходу Глыбоцкай Секцыі Матацыклетнага Клуба Стралецкага Звязу "Вільня" – "31-га студзеня б(ягучага) г(ода)."**

# Узлёты і падзенні горада Глыбокае

■ **Уладзімір Скрабатун**

Уязджаеш у Мінск і такая карціна паўстае! Мірыяды машын, светлафоры, пробкі, хтосьці "падразае" цябе, таго й глядзі, аварыя можа здарыцца... І ў які ўжо раз – мо соты – чуеш у салоне аўта голас кагосьці з пасажыраў: "Ой, не! Я б не змог(ла) ніколі жыць у Мінску! Тлум, мітусня! Глыбокае – самы раз!"

Узнікае пытанне – з якой колькасцю насельніцтва горад (райцэнтр) можна лічыць камфортным для пражывання?

Докшыцы з насельніцтвам 6,9 тыс. чалавек? Чаму б і не! Цяпер не трэба, як гадоў 30 таму, ездзіць на закупы ў Мінск ці Вільню. Усё, што пажадаеш, можна сёння купіць у саміх Докшыцах, былі б толькі грошы! (Толькі, спадарства, не падумайце, крый Божа, што аўтар хоча зганіць Докшыцы! Файны горад!) А глыбоцкая моладзь сцвярджае, што ў Докшыцах няма куды падацца іх аднагодкам. А ў Глыбокім - ёсць! Кавярні, дыскатэкі, більярд, а хутка, кажуць, будзе і боўлінг... Праўда, у Докшыцах ёсць добры басейн, якога няма ў Глыбокім. Глыбачане ўзімку масава ездзяць паплаваць у Докшыцы.

Глыбокае, фактычна, у тры разы большае па насельніцтву за Докшыцы. І, напэўна, у Глыбокім у тры разы больш магчымасцяў для камфортнага пражывання яго насельніцтва, чым у Докшыцах? Лягчэй знайсці працу, а пахадзіўшы па крамах – большая магчымасць выбару танных тавараў, прывабна можна бавіць вольны час.

На гэтым фоне згадваю тэлефанаванне адной нашай чытачкі, пенсіянеркі з Полацка, якая па нашых абвестках шукала прымальны варыянт абмену-куплі жылля ў Глыбокім.

*– Глыбокае – горад пенсіянераў, куды людзі вяртаюцца дажываць свой век,–* кажа яна, *– а моладзь з'язджае і не вяртаецца, бо няма тут магчымасцяў для яе самарэалізацыі!*

Вось такі прысуд Глыбокаму ад палачанкі.

Атрымліваецца, з большага, любая ацэнка таго ці іншага горада (райцэнтра) – суб'ектыўная.

Можна змадэляваць і гіпатэтычную сітуацыю, калі ў Глыбокім будзе пражываць, напрыклад, 40 тыс. чалавек, і дадатныя магчымасці такога горада для камфортнага пражывання. Уяўляю ўжо круты гіпермаркет пры ўездзе ў Глыбокае з боку Докшыцаў і рэальна пабудаваны Лядовы палац, плавальны басейн... З такой колькасцю насельніцтва можна паспяхова развіваць любы бізнес – гандаль, паслугі, турызм – бо за выняткам пенсіянераў, інвалідаў, немаўлятаў – больш у два разы будзе плацёжаздольнага насельніцтва.

На заканчэнне – інфаграфіка дэмаграфічнай сітуацыі ў Глыбокім за апошнія 155 гадоў. Сёння Глыбокае робіць другую спробу перайсці 20-тысячную мяжу. Ці адолее?




**Інфаграфіка колькасці насельніцтва ў Глыбокім з** 1861 **па** 2015 **гг. Па стане на** 01.01.2016 **г у Глыбокім – 18 921 чалавек.** *Крыніца: pl.wikipedia.org*

# Няведанне закона не вызваляе ад адказнасці

**У кастрычніку 2014 года ў Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь былі ўнесены змены і дапаўненні. У прыватнасці, з'явіўся новы артыкул – 282-1, які ўстанаўлівае адказнасць за незаконнае перамяшчэнне (транспартаванне) або разделку дзікіх жывёл.**

■ **В. Катовіч,** *ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Да ліку апошніх аднесены прадстаўнікі фаўны, якія з'яўляюцца аб'ектамі палявання. Прычым не толькі жывых, але і загінулых, а таксама іх часткі. У артыкуле сказана, што калі падобныя дзеянні будуць учынены на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за аналагічнае парушэнне, надыходзіць крымінальная адказнасць. Пакаранне – штраф, або папраўчыя работы на тэрмін да двух гадоў альбо арышт.

Другая і трэцяя часткі названага артыкула ўтрымліваюць кваліфікаваныя прыкметы злачынства, якія абцяжарваюць зробленае. Да іх адносіцца ўчыненне злачынства ў буйным памеры, на тэрыторыі запаведніка, нацыянальнага парку, заказніка, на тэрыторыях, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню, калі асоба раней была асуджана за незаконнае паляванне або за аналагічныя дзеянні, а таксама калі перамяшчаюцца або раздзелваюцца дзікія жывёлы, уключаныя ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь .

У такіх выпадках мерай пакарання стануць штраф, або арышт, або абмежаванне волі на тэрмін да двух гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў. А калі на злачынства ідзе службовая асоба з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, альбо фігуруе асабліва буйны памер нанесенай шкоды, у якасці меры пакарання вінаваты можа атрымаць штраф, або пазбаўленне права займаць пэўныя пасады, або займацца пэўнай дзейнасцю са штрафам, або абмежаванне волі на тэрмін да трох гадоў, а таксама пазбаўленне волі на тэрмін да чатырох гадоў з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады, або займацца пэўнай дзейнасцю, або без пазбаўлення.

У заўвазе да гэтай навацыі заканадавец паказаў, што памер з'яўляецца буйным у тым выпадку, калі кошт дзікай жывёліны ў сто і больш разоў перавышае памер базавай велічыні, а асабліва буйным – у дзвесце пяцьдзясят і вышэй.

З'яўленне новага артыкула ў законе абумоўлена шэрагам абставінаў. Перасоўванне (транспарціроўка) і разделка дзікіх жывёл, у тым ліку загінулых (або іх частак), без прадугледжаных актамі заканадаўства дакументаў забароненыя Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі. У іх жа сказана, што пры выяўленні ў паляўнічых угоддзях, а таксама па-за імі, у тым ліку на дарогах, параненых, траўміраваных, хворых або загінулых дзікіх жывёл забараняецца самавольна здабываць іх, раздзелваць або перамяшчаць (транспартаваць) іх тушы або часткі туш, выкарыстоўваць прадукцыю – мяса, шкуру, рогі і інш.

У выпадку выяўлення названых вышэй паляўнічых жывёл або прадстаўнікоў Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь грамадзяне абавязаны паведаміць пра гэта карыстальніку паляўнічых угоддзяў альбо ў міліцыю ці раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях. Пасля ўпаўнаважаныя асобы з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў лясной гаспадаркі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама спецыяліста дзяржаўнай ветэрынарнай службы (калі жывёла хворая або загінула) складаюць акт.

Прадукцыя, атрыманая ад здабычы параненай, траўміраванай, хворай або загінулай паляўнічай жывёлы, з'яўляецца ўласнасцю карыстальніка паляўнічых угоддзяў і пасля яе афармлення можа быць выкарыстана толькі ім.

Забараняецца самавольна прысвойваць і выкарыстоўваць параненых, траўміраваных, хворых або загінулых дзікіх жывёл. Акрамя таго, пры ўжыванні такіх жывёл ёсць рызыка атрымаць небяспечныя захворванні.

Да з'яўлення ў Крымінальным кодэксе названага вышэй артыкула, заканадаўчым прабелам шырока карысталіся браканьеры. Пасля здабычы жывёлы яны адразу не чапалі яе. Спачатку хавалі прылады палявання, а затым адкрыта транспартавалі дзічыну, выдаючы за выпадкова знойдзеную альбо набітую ў незнаёмцаў. Маўляў, здабыча не іх рук справа, а падбіраць або купляць мёртвых прадстаўнікоў фаўны не забаронена.

Адзін з апошніх выпадкаў у Полацкім раёне ў лютым месяцы 2016 года: грамадзянін Б. рухаючыся на асабістым аўтамабілі па аўтамабільнай дарозе Полацк – Віцебск, заўважыў на абочыне збітую невядомым аўтамабілем казулю. Спыніўшыся і пераканаўшыся ў тым, што жывёла яшчэ цёплая, загрузіў яе і ажыццявіў перавозку. Падчас перавозкі быў затрыманы. У выніку па гэтым факце ўзбуджаная крымінальная справа. У красавіку ў Полацкім раёне адбыўся суд, у выніку якога грамадзяніну Б. прыйдзецца пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю ў памеры 120 базавых велічынь, штраф больш за 50 базавых велічынь плюс канфіскацыя аўтамабіля.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя папярэджвае аб тым, што не варта забіраць і транспартаваць параненых, траўміраваных, хворых або загінулых жывёл, каб не мець праблем з законам.

**Аб усіх парушэннях можна паведаміць на тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, на мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**




18 траўня гэтага года супрацоўнікі інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету разам з работнікамі ДАІ спынілі аўтамабіль "Сітраен" у Бярозаўскім раёне. У яго багажніку былі 2 мяшкі з сеткамі і рыбай. Усяго было 110 рыбін вагой 34 кг і 411 м сетак. Затрыманыя сцвярджалі, што знайшлі гэта на беразе возера. Інспектары, вядома, не паверылі ў такую шчаслівую знаходку. *Здымак з сайта інспекцыі*

# Адлучылася на хвіліну – абакралі касу

**У Вілейцы прадавец адлучылася на хвіліну-другую, а з касы паспелі скрасці грошы.**

Каля гадзіны дня 4 чэрвеня ў міліцыю звярнулася прадавец крамы па вуліцы Прывакзальнай у Вілейцы. Там адбыўся крадзеж.

Крама працавала, але ў той момант пакупнікоў ля касы не было. Жанчына закрыла касу на ключ і пакінула яго там. Адышла літаральна на хвіліну-другую.

Калі вярнулася, то ўбачыла, што нехта пакінутым ключом адкрыў касу і скраў амаль тры мільёны рублёў, расказаў начальнік райаддзела Следчага камітэта Яўген Мягкоў.

Асобу злачынцы ўстанаўліваюць. Крама абсталявана відэаназіраннем, цяпер вывучаюць відэазапіс. Па факце крадзяжу ўзбудзілі крымінальную справу.

*rh.by*

# Выйшаў беларускі пераклад рамана Даленгі-Мастовіча "Знахар"

**У электроннай серыі часопіса «ПрайдзіСвет» выйшла новая кніга — пераклад рамана Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча «Знахар».**




З польскай мовы раман пераклалі Марына Казлоўская, Марыя Пушкіна, Марына Шода і Ганна Янкута. Электроннае выданне падрыхтаванае сумесна з выдавецтвам «Логвінаў» і парталам беларускіх электронных кніг kniharnia.by.

«Знахар» — польскі бестселер 1937 года. Меладраматычны раман Далэнгі-Мастовіча апавядае пра выбітнага варшаўскага хірурга, прафесара Рафала Вільчура, які пасля страты памяці і шматгадовых бадзянняў пад іменем Антонія Касібы трапляе парабкам на млын у мястэчку на Браслаўшчыне, дзе нечакана выяўляе ў сябе невытлумачальную здольнасць лячыць людзей.

Тадэвуш Далэнга-Мастовіч (1898 – 1939) – польскі празаік, сцэнарыст і журналіст, які нарадзіўся на Глыбоччыне. Аўтар сямнаццаці папулярных раманаў і некалькіх кінасцэнараў. На беларускую мову перакладзены ўпершыню. Гэтае выданне — вынік творчага эксперыменту, які меў на мэце даследаваць магчымасці калектыўнага перакладу.

«Знахар» Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча — чацвертая кніга ў электроннай серыі «Калекцыя «ПрайдзіСвета». Неўзабаве чакаецца таксама выданне папяровай версіі рамана ў выдавецтве «Логвінаў».

*nn.by*

# Не варта гуляць у хованкі з законам

**Рыбалка – гэта адна з найбольш частых тэм размоў моцнай часткі насельніцтва. Мужчыны абмяркоўваюць многае: на што лавіць, дзе, якія снасці выкарыстоўваць.**

■ **Аляксандр Федзічкін,** *намеснік начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Аб лоўлі рыбы мы чуем вельмі часта, бо гэта прыемны і незабыўны адпачынак, любімы занятак мужчын, для якога яны заўсёды імкнуцца вылучыць час са свайго цяжкага працоўнага графіка. Гэта могуць быць запланаваныя адпачынак або проста прыдатныя свабодныя выхадныя – для аматараў парыбачыць розніцы няма.

Кожны рыбак можа выбраць месца для лоўлі пэўнага віду рыб і парадвацца трафеем.

Вольны час на рыбалцы – гэта час адгарадзіцца ад штодзённай мітусні, пасядзець з сябрамі, сям'ёй, блізкімі і роднымі, прыгатаваць шашлыкі і весела правесці час. Лоўля рыбы дапамагае людзям адкрыць новыя месцы, завесці новыя знаёмствы, забыцца пра праблемы, штодзённую мітусню.

Але не варта забываць, што пасля заканчэння забароны на лоўлю рыбы 8 чэрвеня ўсе ж застаюцца некаторыя забароны і абмежаванні. Пастановай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 29 сакавіка гэтага года №1.4 унесены змены ў пастанову Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 19 траўня 2014 года №22 "Аб пераліку рыбалоўных угоддзяў", якім вызначаны пералік рыбалоўных угоддзяў фонду запасу, у якіх рыбаловы, якія з'яўляюцца членамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў", права на бясплатнае аматарскае рыбалоўства спосабамі, указанымі ў пункце 72 "Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства" лоўлю рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі і падводнае паляванне не маюць.

У Глыбоцкім раёне забароненая лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі і падводнае паляванне на азёрах Алойзберг, Шо, Бяглец, Белае (у в. Бабруйшчына), Белае (у в. Івесь), Гінькава, Доўгае.

Гэтак жа хацелася б нагадаць аматарам так званай "лёгкай і хуткай рыбалкі" сеткамі, брадніком, пад'ёмнікамі і т. д., што не варта гуляць у хованкі з законам. Рана ці позна ўсё роўна прыйдзецца адказаць. Так, напрыклад, двое жыхароў Пастаўскага раёна 29 траўня гэтага года каля 22 гадзін 20 хвілін на возеры Задзеўскае Пастаўскага раёна з выкарыстаннем забароненай прылады (брадніком) на працягу 5 хвілін здабылі 284 асобіны ўклейкі. Шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала 255,6 базавых велічынь або 53 676 тысячы рублёў. Матэрыялы па гэтым факце перададзеныя ў Пастаўскі РАУС. Разглядаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы.

Галоўнае, не забываць – добры клёў прыйдзе толькі да тых, у каго няма старонніх думак і клопатаў. Жаданы ўлоў толькі павысіць настрой і скончыць ваш адпачынак на цудоўнай ноце. Ездзце рыбачыць – атрымлівайце максімальнае задавальненне ад жыцця, яно таго вартае.

**Просьба да рыбаловаў-аматараў: не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі, таксама паведамляць пра ўсе парушэннях на тэлефон даверу 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



**У Мёрскім раёне непадалёк ад возера Важа супрацоўнікі Дзяржінспекцыі і Браслаўскай міжраённай інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету затрымалі парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.** *Здымак з сайта інспекцыі*

# Узровень пажарнай бяспекі правераных суб'ектаў

**У маі месяцы інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі суб'ектаў.**

За выяўленыя парушэнні правілаў пажарнай бяспекі на гэтых суб'ектах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты іх кіраўнікі, юрыдычныя і службовыя асобы.

Так пры праверцы **ААТ "Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат"** высветлілася, што: не ўсе будынкі прадпрыемства абсталяваны сродкамі пажарнай аўтаматыкі; на вонкавым боку дзвярэй (варотаў) вытворчых і складскіх памяшканняў часткова адсутнічаюць паказальнікі катэгорыі па выбухавапажарнай і пажарнай небяспецы; на складах захоўванне прадукцыі ажыццяўляецца без забеспячэння свабоднага доступу для кантролю за іх станам, праходы і ўчасткі захоўвання не пазначаныя на падлозе добра бачнымі абмежавальнымі лініямі; планы эвакуацыі людзей пры пажары не адпавядаюць патрабаванням; дзверы лесвічных клетак фіксуюцца ў адкрытым становішчы; адсутнічаюць самавыратавальнікі; не распрацаваны спецыяльны план расстаноўкі аўтатэхнікі на тэрыторыі і ў гаражах-стаянках з захаваннем праезду для пажарнай тэхнікі; каля ўездаў на тэрыторыю прадпрыемстваў не вывешаны схемы з нанесенымі будынкамі (пабудовамі), ўездамі, пад'ездамі, пажарнымі праездамі, месцазнаходжаннем крыніц супрацьпажарнага водазабеспячэння; на дзвярах памяшканняў катэгорыі А і Б не размешчаны інфармацыйныя карткі мер пажарнай бяспекі.

**Таварыства з дадатковай адказнасцю вытворча-камерцыйная фірма "Аржаніца"** – вытворчыя і складскія памяшканні не абсталяваныя аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; на вонкавым боку дзвярэй (варотаў) вытворчых і складскіх памяшканняў адсутнічаюць паказальнікі катэгорыі па выбухавапажарнай і пажарнай небяспецы; праходы і ўчасткі захоўвання ў складскім памяшканні не пазначаныя на падлозе добра бачнымі абмежавальнымі лініямі.

**Сельскагаспадарчае ўнітарнае прадпрыемства "За Радзіму"** – не ўсе будынкі і збудаванні забяспечаны спраўнымі першаснымі сродкамі пажаратушэння згодна нормаў Палажэння; драўляныя будаўнічыя канструкцыі паддахавых памяшканняў не апрацаваны вогнеахоўным складам; будынкі і збудаванні не забяспечаны спраўнай ахоўвай ад маланак; адміністрацыйны будынак не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; пажарныя вадаёмы не адпавядаюць патрабаванням правіл пажарнай бяспекі; дрэваапрацоўчыя станкі не абсталяваны прыладамі для механічнага выдалення абрэзкаў, валокнаў і пылу; у адміністрацыйным будынку пад маршам эвакуацыйнай лесвічнай клеткі зроблена дапаможнае памяшканне; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме; дапускаецца складаванне грубых кармоў на адлегласці менш за 50 м ад будынкаў і збудаванняў; у жывёлагадоўчых будынках з прывязным утрыманнем жывёлы адсутнічае групавая прывязь жывёлы, што не забяспечвае хуткага вызвалення жывёл з памяшканняў пры пажары; на аб'ектах дапускаецца эксплуатацыя размеркавальных каробак без ахоўных накрывак і электрасвяцільнікаў без ахоўных плафонаў.

**Крама "Белвест"** – памяшканні не абсталяваны спраўнай аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; адсутнічаюць самавыратавальнікі; план эвакуацыі не адпавядае патрабаванням, не праводзіцца яго адпрацоўка; адсутнічаюць знакі пажарнай бяспекі і стэнд з інфармацыяй аб пажарнай бяспецы і бяспецы жыццядзейнасці; не робіцца замер супраціўлення ізаляцыі электрычных праводаў і кабеляў.

**ЧТУП "Карзінка ПЛЮС"**, крама ў г.п. Падсвілле, вул. Савецкая, 61 – адсутнічае аўтаматычная пажарная сігналізацыя; адсутнічаюць самавыратавальнікі; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме; адсутнічае спецыяльная пляцоўка для размяшчэння кантэйнераў для адходаў; інструкцыя па пажарнай бяспецы не адпавядае патрабаванням.

**Філіял "АТП №16 г. Глыбокае" ААТ "Віцебскаблаўтатранс"** – адміністрацыйны будынак, будынак аўтастанцыі не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; адсутнічаюць самавыратавальнікі; адсутнічае спецыяльная пляцоўка для размяшчэння кантэйнераў для адходаў; пажарны вадаём, прызначаны для мэт тушэння пажараў, не забяспечаны пад'язной дарогай і пляцоўкай з цвёрдым пакрыццём для ўстаноўкі пажарных аўтамабіляў, навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не якасна і не ў поўным аб'ёме; стэнд з інфармацыяй аб пажарнай бяспецы і бяспецы жыццядзейнасці не адпавядае патрабаванням.

**ТАА "Гама прадукт"** – будынак цэха хвоевітамінавай мукі з прыбудовай выкарыстоўваецца не толькі па мэтавым прызначэнні; на вонкавым баку вытворчых і складскіх памяшканняў адсутнічаюць паказальнікі катэгорыі па выбуховапажарнай і пажарнай небяспецы; адсутнічае спецыяльная пляцоўка для размяшчэння кантэйнераў для адходаў; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме; інструкцыя аб мерах пажарнай бяспекі не адпавядае патрабаванням.

*Інспекцыя пажарнага нагляду і прафілактыкі*

## МНС інфармуе

**на 07. 06.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 312;
Гібель людзей – 40, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Глыбачане на фестывалі нацыянальных культур у Гродне



**Наш зямляк Віктар Дудкевіч (справа) наведаў ХІ Рэспубліканскі фэст нацыянальных культур, які праходзіў у Гродне 4–5 чэрвеня.**

